Цана 500 мк.

№ 1 Вільня 18 красавіка 1923 г. Год I

# САХА

**Выходзіць раз на тыдзень**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Biskupia 11, Hotel „Plaż“, № 4.

Рэдактар прымае штодня ад 4 да 5 гадз. вечару.

Падпіска на адзін месяц 2000 мк.

Цана абвестак: перад тэкстам 1000 мк., сярод тэксту 800 мк. і на апошняй стр. 600 мк. за радок пэтыту.

## АД РЭДАКЦЫІ.

*Тыднёвік „Саха“ зьяуляецца органам працоуных масау весак і гарадоу Заходняй Беларусі — парабкоу, малазямельных, фабрычных і рамесьленых рабочых і усіх родау служачых. Асьвятляючы бягучае жыцьце з пункту гледжаньня інтарэсау працоуных масау, боручыся за эканамічнае, палітычнае і нацыянальнае вызваленьне вясковага і гарадзкога пролетарыяту й малазямельных Заходняй Беларусі, просім усіх абяздоленых і прыгнечаных аказаваць нам сваю падмогу, як распаусюджваньнем органу, так і прысылкаю корэспондэнцыяу з весак і гарадоу аб працадаускай эксплеатацыі і аб барацьбе з ею тых, што працуюць, таксама аб самаволі і гвалтах з боку адміністрацыі. Корэспондэнцыі з акуратным паказаньнем часу, месца і асобау могуць быць пісанымі на усіх тутэйшых мовах: беларускай, польскай, літоускай, жыдоускай і расейскай і скірованымі па адрэсе:* Wilno, ul. Biskupia 11, Hotel „Plaż“ № 4, Redakcja gaz. „Саха“.

*Просім ня стыдацца пісаць так, як умееце, ня глядзячы на форму стылю і слабую умеласьць пісаць.*

*РЭДАКЦЫЯ.*

## Аб прызнаньні усходніх граніц.

Рада Амбасадараў на паседжаньні 15 сакавіка бягучага году ў Парыжы прызнала за Польшчаю ўсе землі, якія яна дасюль заняла на Усходзе, або Заходнюю Беларусь і Украіну. Рашаючы голас мела навет далёкая Японія, якая, здавалася-б, нічога супольнага ня мае з нашым краем, але ў самога насяленьня прызнаных за Польшчаю тэрыторыяў сучасныя вяршыцялі лёсаў сьвету і ня думалі пытацца; іх проста „адступілі“, праўдзівей сказаць, прадалі з публічных таргоў таму, хто больш даў, альбо дасьць ў будучыні.

У працягу 4 з паловай гадоў сусьветнае вайны мілітарыстыя Антанты бесьперарыўна трубілі, што яны вядуць вайну ў імя сьвятых лёзунгаў „вызваленьня малых і слабых народаў“, „самаазначэньня“ народаў ды іншых высока-гуманных мэтаў. Мільёны маладых людзей памiралі на палёх бітваў, верачы ў праведнасьць свае справы. Ачмучаныя, абдураныя прэсаю капіталістых ды пропаведзямі ў цэрквах усіх рэлігіяў, гэтыя ахвяры капіталу не маглі зразумець сапраўдных прычынаў сусьветнай разаніны: барацьбы паміж сабою капіталістых розных краёў за заўладаньне багацьцямі сьвету. Гэтыя прычыны зрабіліся відочнымі для ўсіх, навет для самых цёмных людзей, калі пераможцы пачалі дзяліць паміж сабою здабычу.

З часу заключэньня Рыжаскага дагавору паміж Польшчаю і Урадам Саветаў прайшло 2 з паловай гады. Аднак Антанта не сьпяшалася прызнаць за Польшчаю Заходнюю Беларусь і Украіну. Як ні дзіўна, але ўсім ведама, што больш за ўсіх працівілася прызнаньню ўсходніх граніцаў якраз Францыя, гэты „шчыры прыяцель“ Польшчы. Спадзяваючыся на аднаўленьне ў Расеі даўнейшага, мілага душы францускіх буржуа, ладу, Францыя захоўвала ўсе землі на ўсход ад Бугу і Нёмана, таксама і Усходнюю Галіцыю, дзеля гэтае будучае „сапраўднае“ Расеі, з якою яна магла-б аднавіць даўнейшы саюз і забясьпечыць сябе гэтым ад рэваншу з боку пабітае, але ўсё яшчэ небясьпечнае для яе, Нямеччыны. Пытаньне аб Польшчы, як аб саюзьніцы Францыі, адышло-б тады на задні плян. Францыя чакала і адцягвала пытаньне аб усходніх граніцах Польшчы.

Але савецкі лад у Расеі ня толькі ня падаў, а наадварот з кожным годам усё больш умацоўваўся. З другога боку Францыя рашыла прымусіць Нямеччыну заплаціць ёй устаноўленую Вэрсальскім трактатам контрыбуцыю праз заняцьце найбагацейшае нямецкае провінцыі — Рурскага вуглявога басэйну. Але гэта окупацыя не саўсім адпавядае інтарэсам іншых саюзьнікаў, асабліва Англіі. Францыя, гэткім чынам, з большага, разыйшлася са сваімі саюзьнікамі і пачула сябе ізоляванаю (адзінокаю). Польшча, якая даўно, але дарэмна, дабівалася прызнаньня яе ўсходніх граніцаў, знайшла для сябе гэты момэнт самым удачным і заўзята патрэбавала прызнаньня. Яна тым болей павінна была налягаць, бо Францыя ў апошні час, шукаючы новых саюзьнікаў, пачала заігрываць з Саветамі, а гэткае заігрываньне магло адбіцца толькі за рахунак Польшчы. Саветы, як відаць, неахвотна йшлі насустрэчу жаданьням Францыі і апошняя, каб ня быць аканчальна ізоляванаю, хоцькі-ня-хоцькі павінна была згадзіцца на прылучэньне да Польшчы украінскіх і беларускіх земляў. А Японія з Англіяй выказалі сваю на гэта згоду, напэўна думаючы аб аслабленьні Расеі, як свае праціўніцы на Блізкім і Далёкім Усходзе.

Усе гэта прычыны „палітычныя“. Але ёсьць тут і чыста эканамічныя мотывы. Францускі капітал моцна эксплёатуе нэфту ўва Усходняй Галіцыі дый нашыя родныя беларуска-літоўскія лясы ў вялізарнай часьці падаюць ахвяраю апэтытаў францускіх капіталістых.

Варшаўскі Сойм зрабіў з прычыны прылучэньня ўсходніх земляў урачыстае паседжаньне, на якім, аднак-жа, украінскія і беларускія пасолы былі пазбаўлены слова й вышлі з салі.. Мусі, нарэшце, перакана-

ліся, што ад пануючых клясаў Польшчы іх выбаршчыкам—сялянам—чакаць няма чаго.

Працоўныя масы Заходняй Беларусі і Украіны, йдучы да нацыянальнага й эканамічнага вызваленьня, ўсё больш пераконваюцца ў тым, што ніякія капіталістычныя клікі ім не памогуць, што яны могуць разьлічаць толькі на свае ўласныя сілы і на падмогу з боку польскага і ўсясьветнага пролетарыяту.

## Француская пазычка для Польшчы.

Польскія газэты паведамілі, што францускі парлямэнт 515 галасамі проці 58 прыняў проект закону аб асыгнаваньні польскаму ўраду авансу да 400 мільёнаў франкаў. Не аднаму з чытачоў здавалася, што Францыя—гэта сапраўды добры прыяцель Польшчы. Знаходзячыся ў вельмі трудным фінансавым палажэньні, яна сьпяшаецца яшчэ зрабіць грашавую падмогу Польшчы.

Але, дзіўным зьбегам акалічнасьцяў, француская пазычка выпала якраз на той мамэнт, калі францускі ўрад займае ваенную сілаю нямецкія провінцыі, а нямецкія нацыяналістыя вылазяць са скуры, каб распаліць у нямецкіх народных масах шовінізм ды кінуць іх на барацьбу з францускімі. Польшча, як ваенная саюзьніца Францыі, абавязана і павінна быць гатовую даць падмогу, пры патрэбе, сваёй саюзьніцы. Але, каб быць гатовую да вайны, Польшча павінна быць моцна азброена, а гэта зьвязана з вялікімі расходамі. Таму, што капіталістыя іншых краёў не далі-б Польшчы пазычкі, дык гэта павінны зрабіць капіталістыя Францыі, інтарэсы якіх мае бараніць Польшча, як бараніла неаднакроць дасюль. Француская пазычка фактычна дана ў інтарэсе францускіх капіталістых, але ясна і зразумела, што хаця працоўныя масы Польшчы й не скарыстаюць з гэтае пазычкі, але доўг гэты будзе ўсё такі цяжарам на плячох рабочых і сялян Польшчы.

## Магутная зброя рэакцыі.

Калі пад напіраньнем рэвалюцыйнае хвалі, вялізных забастовак і рабочых дэмонстрацыяў упяршыню захістаўся ў 1905—6 г. г. трон крывавых цароў, дык у адказ пачаліся пагромы жыдоў у Адэсе, Гомлі, Беластоку, Седлецы...

— Далоў самадзяржаўе!—грымелі вуліцы вялікіх гарадоў.

— Бі жыдоў!—сычэлі чорнасоценныя гады ў сваіх царасляўных газэтах, царквах, перад казённымі манапольками.

Рабочая кляса вельмі добра разумела тады значэньне гэтае антыжыдоўскае агітацыі. Яна ведала, што гэта апошні „ідэйны" спосаб царскага ўраду, спроба скіраваць гнеў прыгнечаных народных масаў па лініі рэлігійнае й расавае нянавісьці. Рабочыя ўважна сачылі за гэтаю агітацыяй і з кожным злоўленым агітатарам распраўляліся тут-жа на месцы, як з агентам жандарскае ахранкі. Ішлі чуткі, што пераапранутыя жыдамі ахраньнікі маюць даручэньне высьмейваць у Варшаве працэсію Божага Цела і гэтым выклікаць жыдоўскі пагром. Баявыя рабочыя дружыны паставілі тады моцныя пасты пры ўходах ува ўсе касьцёлы ў часе працэсіі і гэтым не дапусьцілі да пагрому.

З прычыны пераапрананьня агентаў ахранкі, варшаўскія рабочыя навет сьпявалі тады спэцыяльную песенку:

„Садралі яму бараду,
Паглядзелі... там далей,
Ня быў абрэзаны—
Дык яго абрэзалі..."

Чорная сотня, разумеецца, скіроўвала свае ўдары толькі проці жыдоўскае беднаты, бедакоў-рамесьнікаў ды дробных крамнікаў. Буйная жыдоўская буржуазія, фабрыканты, банкіры, купцы першае гільдыі карысталіся ў царскае бюрократыі вялікай пашанаю, як памоцнікі пры абкрадваньні казны шляхам розных падрадаў і дставаў. Царскія міністры пакорна кланяліся за граніцаю Ротшыльдам і вымольвалі ў іх пазычкі на душэньне рэвалюцыі.

Жыды, дзякуючы іхняй адасобленнасьці ад рэшты насяленьня, перавазе ў буйным і дробным гандлі, закаранелым рэлігійным ды расавым забабонам, былі—й засталіся дасюль—найспагаднейшаю мэтаю для стрэлаў рэакцыі. Але не адзінаю. Усім зразумелая, ў гісторы кананьня царызму, шумеўшая некалькі дзён узаемная разаніна татар і армянцаў у Баку. Пролетарыят абедзьвюх народнасьцяў страшэнна сплываў крывёю ў гэтай братабойчай барацьбе, а нацкаваўшыя іх адзін на аднаго царскія сатрапы з задаваленьнем паціралі рукі.

* * *

Пераможны пролетарыят сьцёр царызм з зямнога твару. У Баку—сталіцы Азэйбэрджанскае савецкае рэспублікі спакойна і солідарна адны з аднымі жывуць татары, армянцы і шмат іншых народнасьцяў і ўсе маюць дачыненьне да праўленьня рэспублікаю. Школы й літэратура цьвітуць на ўсіх мовах, навет гэткія народы, як башкіры й мардва, маюць свае школы, газэты, тэатры. Ужо чароднаму пакаленьню нацыянальная барацьба будзе гэтак сама незразумелаю, як нам незразумела спальваньне жыўцом на стосах „гэрэтыкоў"—людзей іншае веры.

Але рэшта сьвету коўна нацыянальнай нянавісьці больш, як калісь раней. Загніўшы капіталізм прабуе прадоўжыць сваё істнаваньне тымі самымі спосабамі, якімі карыстаўся пры сваім кананьні царызм. Калі рабочыя масы згінаюцца пад цяжарам дарагоўлі, мілітарызму, непасільных падаткаў, польскія заможныя клясы маюць адзін адказ: „Гура! на немцаў! Душы украінцаў! Бі жыдоў!" Гэтак робіць чорная сотня ўсіх капіталістычных краёў. Прычыны ўсіх няшчасьцяў, галаты і незабесьпячэньня заўтрашняга дня, — як быццам, — не капіталістычны лад, збудаваны на эксплёатацыі й жаданьні нажывы, а нейкая безназоўная сіла, выражаная ў людзях іншае расы, альбо мовы. Хто будзе пацярпеўшым казлом—залежыць ад акалічнасьцяў. Нямецкая чорная сотня цкуе на жыдоў, палякоў ды французаў, амэрыканская—нэграў ды... папістых (рымска-каталікоў). Дзеля польскае чорнае сотні жыды невычарпальны матар'ял дзеля абдурваньня людзей. Калі-б у Польшчы ня было жыдоў, дык чорнасоценцы павінны былі-б іх выдумаць, бо йначай іхні „патрыятызм" і палітычная мудрасьць зьехалі-б на ноль.

Але, на іхняе шчасьце, жыды ёсьць. Дзякуючы жыдом, праграма шовіністых вельмі простая. Спэкуляцыя й грабеж? Трэба толькі ўхіліць жыдоў і гэтыя пачэсныя заняцьці зробяцца ня крыўдаю, а нацыянальным дабрадзействам. Марка падае? Жыды вінаваты. Крызыс і безрабоцьце? Ізноў жыды. Пагражае новая вайна? Ня верце таму, што магутныя капіталістычныя банды грызуцца паміж сабою з-за валаданьня вуглём, жалезам, нэфтаю. Тут жыды нешта камбінуюць. І ўсе тыя, хто протэстуе проці абдзіраньня, гнёту, адсутнасьці прасьветы, субсыд'яваньня валютных спэкулянтаў за кошт скарбу, ваенных авантураў—усе яны „жыдоўскія пахолкі". Усе, нязгодныя з тым,

равы Зямельнага Саюзу маюць адказаць ці згаджаюцца на згодніцкую палітыку Управы, ці выбяруць шлях забастовачнай барацьбы. Палажэньне абгаварваецца ўсімі аддзеламі Саюзу. На зьездзе Гарволінскага аддзелу, які адбыўся 25 лютага, прынята пастанова, якая выражае пазыцыю больш усьведамленых клясова прафэсыянальных элемэнтаў. Прыводзім яе, бо яна пазваляе пазнаёміцца з сягоньняшнімі жаданьнямі абшарніцкае рэакцыі і зямельных рабочых:

Сабраныя на Зьездзе Гарволінскага Аддзелу Профэсыянальнага Саюзу Зямельных Рабочых, азнаеміушыся з пазыцыяй, якую займаюць абшарнікі у справе дагавору, справе выдаленых і т. д., пастанауляюць бараніць гэткія трэбаваньні:

1) Абарона дэлегатау і даверaных мужоу.

2) Застауленьне на месцы усіх выдаленых, прыняцьце на работу безработных з прайшоушых гадоу.

3) Утрыманьне дзьвюх кароу, утрыманьне адмены пасылак і іншых варункау, якія мелі-б панізіць заробак рабочых.

4) Зьезд бачыць сьвядомае імкненьне абшарнікау разам з міжнародным капіталам да адбудаваньня капіталістычнае гаспадаркі коштам рабочае клясы, наступленьне капіталу, які імкнецца адабраць частковыя здабычы у рабочае клясы. Зьезд пастанауляе працістацць яму і адказаць контр-наступленьнем.

Зьезд заклікае Галоуную Управу, каб неадступала ад рацыянальных рабочых трэбаваньняу, каб у праціуным выпадку заклікаць усіх зямельных рабочых да агульнае забастоукі.

Зьезд лічыць, што наступленьне абшарнікау—ня выключна іхняе наступленьне, а ужо аб'яднанага капіталу. Зьезд зварочваецца да Цэнтральнае Камісіі Проф. Саюзау, каб у выпадку забастоукі зямельных рабочых, заклікала усіх арганізованых рабочых да агульнае забастоукі. Адбіць наступленьне капіталу можа толькі уся рабочая кляса.

## Палітыка «Вызваленьня».

На зьезьдзе П. Н. П. „Вызваленьне“, адбытым у Варшаве 1 і 12 мінулага месяца парлямэнцкія павадыры мелі шмат клопату з провінцыяльнымі дэлегатамі, якія дамагаліся спаўненьня выбарчых абяцанак. Аднак-жа наагул ім удалося яшчэ на гэты раз замаскаваць дваякі характар гэтае мужыцкае партыі якая згрупоўвае ў краі шмат радыкальных, а навет і рэвалюцыйных вясковых элемэнтаў, а ў Сойме падтрымлівае пераходны ўрад гэн. Сікорскага —пераходны да ўлады Хьены з Пястам.

Сваю удачу пры выбарах „Вызваленьне“ мела, толькі дзякуючы чырвона-радыкальнай агітацыі ў палітычных і грамадзкіх пытаньнях, а перш за ўсё лёзунгу адабраньня зямлі ад абшарнікаў на карысьць безьзямельных і малазямельных. Якія элемэнты групуе „Вызваленьне“ на вёсцы і чаго чакаюць вясковыя масы ад п. Тугута і Панятоўскага, — сьведчаць пастановы акружнога зьезду ў Вільні, абвешчаныя ў 3-м нумары партыйнага органу.

### Чаго хоча „вясковы народ“.

*У справе зямельнае рэформы* віленскі зьезд *трэбуе адабраньня зямлі ад абшарнікаў бяз выкупу*, пакінуўшы ім гэтулькі-ж зямлі, колькі й сялянам. Адабраная ад абшарнікаў зямля раней мае перайсьці да ўраду, а ад ураду да працоўнага народу за аплату, якая была-б толькі гэткаю, колькі каштавалі-б расходы Ураду пры падзеле.

### Аб нацыянальнай справе.

Конгрэс *прызнае права кожнага народу на незалежнасьць*, глыбока верачы, што супольная доля й нядоля суседніх народаў павінна давясьці да дабравольнага злучэньня іх краёў на прынцыпе фэдэрацыі.

Усходнія землі Рэспублікі павінны цяпер ужо адтрымаць у межах польскае дзяржавы *шырокую тэрыторыяльную аутаномію* дзеля самастойнага вырашаньня сваіх мясцовых справаў пад кантролем прадстаўнікоў усяго насяленьня краю.

### Аб адбудове і лясной гаспадарцы.

Конгрэс дамагаецца *затрыманьня грабежніцкага высяканьня лясоў*, якія зьяўляюцца найбольшым багацьцем нашага краю і дзеля гэтага павінны быць якнайхутчэй *знацыяналізованы*.

Конгрэс дамагаецца выдаваньня дзерава на адбудову і апал па ўрадовых цэнах дзеля незаможнага насяленьня, як з лясоў урадовых, так і прыватных.

### Аб ваеннай колёнізацыі.

Конгрэс дамагаецца *незабаўнага затрыманьня* ваеннае колёнізацыі ў цяперашняй форме, калі жаўнеры здалёк, адарваныя ад сваіх дружынаў, адтрымоўваюць зямлю, якая даўно належыць мясцовым людзям.

.. Дзеля гэтага Конгрэс дамагаецца расшырэньня права аб ваеннай колёнізацыі на ўсю Польшчу й выразнага сьцьвярджэньня, што жаўнер павінен адтрымаць зямлю ў першую чаргу, але ў *сваей валасьці, альбо павеце, а найлепей каля роднае вескі.*

Конгрэс дамагаецца ад ураду пракантраляваньня ўсіх дасюлешніх ваенных колёністых і пакіданьня на месцы толькі тых, якія самі абрабляюць зямлю і паступаюць прыстойна, *а высяляньня тых, якія не адпавядаюць гэтым варункам.*

### Аб школьнай справе.

Конгрэс дамагаецца якнайхутчэйшага правядзеньня ў жыцьцё закону аб 7 гадовай агульнай школе, ў якой прымусова адтрымлівалі-б бясплатную навуку народні ўсе дзеці, як бедных, так і багатых *на роднай мове большасьці дзяцей* школьнага веку ў данай ваколіцы..

Гэтыя пастановы зьяўляюцца вернаю адбіткаю лёзунгаў, з якімі „Вызваленьне“ выступіла ў выбарнай барацьбе.

Быўшыя на зьезьдзе паслы выясьнілі, што „прынятыя трэбаваньні выказваюць тое, чаго хоча вясковы народ“, але... пакуль што трэба старацца, каб прыстасоўваліся тыя правы, якія зьяўляюцца ўсё-ж такі „лепшымі за тое, што цяпер ёсьць у жыцьці“. У рэзультаце, пасьля прамоваў п. п. паслоў, зьезд, даў веру ня толькі ім, але і *ураду п. гэн. Сікорскага*

### „Зямельная рэформа“ Людкевіча—Сікорскага.

Чэсныя віленскія „вызваленцы“ напэўна пераконаны, што ўрад п. гэнэрала забавязаўся прыстасоўваць са ўсею рашучасьцяй тыя з істнуючых законаў, якія хоць і далёкі ад дасканальнасьці, „але-ж усё такі лепшыя за тое, што цяпер ёсьць у жыцьці“, напрыклад *закон аб спаўненьні зямельнае рэформы.* Ведама, што закон гэты, пастолькі, паскольки запэўняў пяршынство ў адтрыманьні зямлі безьзямельным і малазямельным, *ніколі не увайшоў у жыцьце* і ў практыцы заменены ціхім паразуменьнем ураду, багатых мужыкоў вітосікаў ды земляўласьнікаў. Ці паслы з „Вызваленьня“ патрэбавалі ад п. Сікорскага, каб гэтай ціхай ліквідацыі зямельнае рэформы палажыў канец, ці узалежнілі ад гэтага сваю пазыцыю да ураду? Ані не. Урад п. гэнэрала ў сваёй праграмнай дэклярацыі збыў пытаньне зямельнае рэформы абяцанкаю пазьнейшага унясеньня новэльлі да істнуючых законаў. Усе соймаўскія сялянскія клюбы, ня вылучаючы „Вызваленьня“ прыступілі на гэтую абяцанку і „напавер“ далі сваё падтрыманьне ураду.

Цяпер зьмест дакляраванай „рэформы зямельнае рэформы“ ужо вядомы ў агульных рысах. У прэсе («Kur. Polski» № 53) зьявілася гутарка з прэзэсам Галоўнае Зямельнае Управы, п. С. Людкевічам. Гутарка гэта ня выклікала з боку ураду ані якага запярэчаньня, ні паправак.

Урадовы проект прызнае галоўны аргумэнт абшарнікаў аб нязгоднасьці замельнага закону з конституцыяй. „У гэтых пунктах, — запэўняе п. Людкевіч, — ён будзе саўсім зьменены. Аднак ня ўводзіць ніякіх новых „экспэрымэнтаў". Новэльля прадбачыць зьвязаньне ўрадовае парцэляцыі з прыватнаю парцэляцыяй у адно. Прыватная парцэляцыя будзе магчы рабіцца самімі ўласьнікамі... Набываньне запасу зямлі можа адбывацца шляхам купляньня з вольнае рукі і шляхам прымусовага выкупу за прыстойную (так!) заплату. Адным словам, *у руках уласьнікаў больщых абшараў будзе стварэньне варункаў, якія зьвялі-б да мінімуму прымусовы выкуп.*

Дык „дзікая парцэляцыя", гэтак зразумела зьненавіджаная малазямельнымі і дворным пролетарыятам, ўва ўрадовым проекце „асвоена", зьлегалізована, паднята да вартасьці галоўнага прынцыпу. Новэльля мае быць узаконеньнем тае ціхае ліквідацыі зямельнае рэформы на карысьць багатых сялян, якая больш як два гады адбываецца пры дзейным удзеле вітосікавых махераў. *(Канец будзе).*

## Сусьветная безработіца.

Паводлуг статыстычных лічбаў з розных краёў і розных часьцей сьвету, цяпер у Эўропе больш, як 4 мільёны безработных, а на ўсім сьвеце 10 мільёнаў. Калі далічым дружыны, дык у Эўропе захопленых безработіцай будзе 15 мільёнаў, а на ўсім сьвеце 50 мільёнаў насяленьня.

Сума падмогаў, выплачаных безработным з публічных і прыватных крыніцаў у 1921 годзе раўнялася 10 мільярдам франкаў, а за час ад вэрсальскага міру да канца 1921 году 25 мільярдаў франкаў золатам.

Якраз у той час, калі ўвесь сьвет зьнішчаны сусьветнай вайною, калі бракуе дзесяткоў тысячаў дамоў і ўсялякіх рэчаў штодзеннага ўжываньня, мільёны рабочых ня маюць працы. Гэтая анормальнасьць магчыма толькі ў ладзе прыватнае ўласнасьці, бо прадукцыя адбываецца ня ў меру грамадзкіх патрэбаў, але для зыску уласьнікаў прыладаў прадукцыі і інструмэнтаў працы—капіталістых.

Пасьля вайны стварылася гэткая сытуацыя, што ў краёх з высокаю валютаю паўстала вострая безработіца, бо вытвараных тавараў краі з нізкаю валютаю не маглі закупляць.

Капіталістыя лічаць за лепшае іграць на біржы ў краёх з нізкаю валютаю, бо гэта ім прыносіць большыя карысьці, чымся зьмяшчаньне капіталаў у прамысловасьць. Прадукцыя гэтых краёў зьмяншаецца, робяцца меншымі дзяржаўныя даходы, валюта паніжаецца далей і вытвараецца зачарованае кола, як бачым гэта ў Польшчы, Аўстрыі й Нямеччыне.

Барацьба з гэтым павінна быць барацьбою за зьмену грамадзка-палітычнае сыстэмы, бо капіталістычны лад ня мае сілы вылячыць сьвет ад гэтае хваробы, якая зьяўляецца няўхільным рэзультатам капіталістычнага ладу. Хвароба гэтая перш за ўсё дапякае працоўнай клясе, дык кляса гэтая павінна напружыць свае вялізарнейшыя сілы, каб раз назаўсёды зволніцца ад кайданоў капіталістычнае няволі.

## Бесьперарыўная вайна.

Сусьветная вайна мела быць апошняю вайною народаў. Гэтак цьвярдзілі ўсе газэты заможных клясаў. Пасьля яе павінен быў пачацца вечны мір на зямлі. Усе паднявольныя народы павінны былі быць вызваленымі, ўсе спрэчкі паміж народамі павінен быў рашаць міжнародны трыбунал спакойна, без праліцьця крыві.

На варце міру й справядлівасьці паміж народамі Эўропы павінен быў стаяць Вэрсальскі трактат, але выходзіць, што трактат гэты ня даў сьвету ніводнае мінюты спакою. Перашкаджаў гэтаму, галоўным чынам, антагонізм інтарэсаў Францыі і Англіі, галоўных дзяржаваў пераможцаў, з якіх кожная імкнецца панаваць над сьветам за кошт свайго праціўніка. А імпэрыялістычные імкненьні паўстаўшых у рэзультаце сусьветнай вайны новых дзяржаваў таксама ня ў меншай меры зьяўляюцца прычынаю праліцьця крыві.

Увесь 1919 і 1920 г.г. ішла вайна з рабоча-сялянскім урадам Расеі. Сусьветны капітал ня мог памірыцца з думкаю, што на зямной кулі істнуе край, які не пакараецца яго панаваньню. Францыя і Англія па чарзе падтрымлівалі Юдэніча, Колчака, Дэнікіна, Врангеля, падбуралі проці Расеі Польшчу. Кроў польскіх, расейскіх, беларускіх і украінскіх сялян і рабочых лілася ракою. У разультаце працоўныя масы Расеі ўсё-ж такі абаранілі сваю ўладу.

У той-жа самы час ішла вайна паміж Грэцыяй і Турцыяй. Англія адвеку конкуруе з Францыяй у Малой Азіі. Англія падтрымлівае там Грэцыю, Францыя—Турцыю. Францускі капітал маніцца зрабіць для сябе з Турцыі крыніцу барышоў і эксплёатацыі, а ангельскія капіталістыя таго самага дабіваюцца ў Грэцыі. Францыя хоча ўмацаваць Турцыю за кошт Грэцыі, а Англія, наадварот, умацоўвае Грэцыю за кошт Турцыі. Кожная з праціўніц азбройвае дзяржаву, якой спагадае ды кідае іх адну на адну. У рэзультаце плыве кроў працоўнікоў, як Грэцыі, так і Турцыі.

Забраньне францускімі капіталістымі Рурскага вуглявога басэйну пагражае новаю вайною...

Войны без канца.

Але войны будуць датуль, пакуль пры ўладзе знаходзяцца заможныя клясы, што вечна конкуруюць паміж сабою ды вырываюць адна у аднае крыніцы разбагачваньня.

Толькі перабудова сучаснага, заснованага на эксплёатацыі чужое працы, ладу ў соцыялістычны зьнішчыць прычыны спрэчак паміж народамі і канец паложыць зьнішчэньню чалавека чалавекам.

## Конфэрэнцыя у Лёзаньне.

### I.

Да зруйнованых апошняю сусьветнаю вайною дзяржаваў належыць таксама й Турцыя. У 1920 г. пераможныя дзяржавы стараліся накінуць Турцыі мір (сэўрскі), які выганяў яе з Эўропы і адбіраў ад яе большасьць таго, што мае ў Азіі... Дзеля таго, што туркі ня прызналі гэтага трактату, Англія, якая найбольш папалася ў Турцыі, азброіла й піхнула на новую вайну Грэцыю. Толькі пасьля пабою Грэцыі пераможныя дзяржавы рашыліся на вядзеньне перагавораў з Турцыяй з мэтай рэвізіі сэўрскага трактату.

Дзеля гэтага склікана была конфэрэнцыя ў Лёзаньне. Ужо самы факт скліканьня конфэрэнцыі азначаў зьнішчэньне сэўрскага трактату і быў перамогай Турцыі. На конфэрэнцыі Турцыя аканчальна зракласа Мэсопатаміі, Сырыі, Палестыны й Гэджасу, але прызнана назад за ёю Сьмірна і часьць Фракіі (якія раней-шы трактат аддаваў Грэцыі). Пад поўнае турэцкае панаваньне вяртаецца Канстантынопаль, але з варункам, што ваенным караблём усіх дзяржаваў можна праходзіць цераз праліві, (што злучаюць Чорнае мора з Сяродземным).

Проці гэтага трэбаваньня протэставала Савецкая Расея, даказваючы, што гэткім чынам, яе чарнаморскія берагі зданы на ласку й ня ласку ваеннага флёту Англіі, але Англія якраз з гэтай мэтаю выставіла гэтае трэбаваньне і Турцыя мусела паддацца.

Блізу тры месяцы цягнулася лёзанская конфэрэнцыя, але ў канцы разьбілася. Фармальны разрыў адбыўся з прычыны гаспадарчых і юрыдычных трэбаваньняў (захаваньне судовых прывілеяў для чужаземцаў)—а фактычна барацьба йшла за ўладаньне бьiўшаю турэцкаю провінцыяй—*Мосулем*.

Турэцкая дэлегацыя даводзіла, што цераз склад насяленьня (на поўмільёна жыхароў—400.000 туркаў), як і з пункту гледжаньня палітычнага, эканамічнага й стратэгічнага Мосуль назад павінен адыйсьці да Турцыі. Англія адказвала, што курды, якія зьяўляюцца большасьцю насяленьня — ня туркі, што на поўначы жывуць таксама армянцы, на захадзе туркі, на ўсходзе пэрсы, на поўдні арабы. Англія не згаджалася й на плебісцыт і лічыла за лепшае дапусьціць да разьбіцьця конфэрэнцыі, навет да вайны, абы утрымаць у сваім уладаньні Мосуль.

Упартасьць Англіі тлумачыцца адным магічным словам — *нэфта*. Мосуль мае багатыя крыніцы нэфты, а Англія борацца за нэфту.

## II.

Доўгі час нэфта служыла толькі дзеля асьвятленьня. У пачатку гэтага сталецьця пачалі ўжываць нэфту й нэфтавыя прадукты, як апал Моторы Дызэля, нязвычайна шпаркае разьвіцьцё аўтамабілізму прыдавалі нэфце, або нэфтавым прадуктам (мазут, бэнзын і інш.) ўсё большае значэньне.

Поўную рэвалюцыю выклікала ўжываньне нэфты як апалу на караблёх. Яна напалову таньнейшая за вугаль, апальваньне нэфтаю зьмяншае блізу што на ⅓ баляст, бо 375 кілёгр. нэфты даюць столькі сама цяплыні, колькі 1000 кілёграмаў вуглю; нагрузка нэфты шмат таньнейшая й хутчэйшая, як нагрузка вуглю; абслугі пры нэфтавым апале трэба шмат менш, чымся пры апале вуглём. Вялізнае значэньне нэфты асабліва яскрава выступіла падчас апошняе вайны: вялікія панцырнікі, апальваныя нэфтаю, маглі рухаць, дзякуючы ашчоднасьці на балясьце, шмат больш лік гарматаў; падводныя чайкі, танкі самаходы, аэропляны прыводзяцца ў рух бэнзыннымі моторамі.

Дык-жа ўсе дзяржавы пачалі паглядаць на нэфту. Перш за ўсё Англія. Бо панаваньне Англіі апіраецца на панаваньні на моры; гэта было магчым ня толькі, дзякуючы найбольшаму ваеннаму і гандлёваму флёту, але й дзякуючы багацьцю вуглю, якое мае Англія. З часу, калі вугаль, як карабельны апал, усё мацней выцясьняецца нэфтаю, ангельскае панаваньне на моры становіцца перад пагрозаю, бо Англія ў сябе ня мае нэфты нідзе, навет і ў калёніях. У спакойны час Англія можа яе купляць. Але дапусьцім, што разгарэлася вайна; калі Амэрыка, альбо іншы край, які мае нэфту, стане на старану ворагаў Англіі, альбо будзе нэўтральнаю—тады Англія мусіць вайну прайграць.

Аб гэтым ведае ўрад і буржуазія Англіі і ўжо шмат гадоў цішком, альбо й яўна скупляе, дзе толькі можа нэфтавыя концэсіі. Вялізны ангельска-галяндзкі трэст мае нэфтавыя концэсіі ў Румыніі, Эгіпце, Пэрсіі, Галяндзкай Індыі, Бірманіі. Калі Англія выступае проці адданьня Польшчы Усходняе Галіцыі, дык не таму, што становіцца ў абароне украінскіх масаў ад польскай буржуазіі. Ані не. Галіцыя мае нэфту і ў барацьбе за нэфтавыя концэсіі ангельскі капітал мусіў-бы паддацца францускаму капіталу, які мае большы ўплыў ў Польшчы.

Гэтак сама абарона „незалежнае“ Галіцыі выцякала й выцякае з нэфты. Урад „незалежнае“ Грузіі скакаў так, як хацеў ангельскі гэнэрал, якім, ведама што, кіраваў ангельскі нэфцяр сэр Маркус Самуэль. Пэпээсы, стаўшыя за абарону незалежнасьці Грузіі, фактычна бароняць інтарэсы ангельскіх нэфтавых купцоў.

## III

У гэтай барацьбе за нэфту Англія сустрачаецца з дужым конкурэнтам у постаці Амэрыканскіх Злучаных Штатаў. Злучаныя Штаты вытвараюць 70 проц. усяе нэфты на сьвеце, але апошнія зьведаньні даказалі, што нэфтавыя крыніцы ў Штатах вычэрпаваюцца й калі развіцьцё атамабілізму (цяпер 1 самаход на 8 жыхароў) і мараходства пайдзе дасюлешнім тэмпам, дык праз некалькі гадоў Штатам можа не хапіць нэфты на патрэбы ўласнага краю. Гандлёвы флёт Штатаў нязьмерна падрос за час вайны й амэрыканская буржуазія неспакойна паглядае на забіраньне Англіяй нэфтавых концэсіяў на ўсім сьвеце. Навет у самых Штатах ангельскі капітал мае ўласныя крыніцы, а ў Цэнтральнай Амэрыцы, ў Гандурасе, Гватэмалі, Панаме, Колюмбіі, Вэнэцуэлі і інш. вялізная большасьць нэфтавых концэсіяў знаходзіцца ў руках ангельскага капіталу. Дык і паміж двома капіталамі: амэрыканскім і ангельскім пачалася заўзятая барацьба за нэфту. У Мэксыцы, якая мае нэфту, вечная дамовая вайна, лічачы аканчальна, зьяўляецца вайною паміж ангельскім і амэрыканскім нэфтавымі капіталамі. Конфэрэнцыі ў Гаазе і Гэнуі, паміж іншым, былі разьбіты таксама з прычыны барацьбы гэтых двох капіталаў за каўкаскую нэфту.

Гэтая барацьба йшла гэтак сама і у Лёзаньне. Турцыя хацела падрапараваць свае зруйнованыя фінансы прадажаю нэфтавых концэсіяў у Мосулі. Калі-б гэты край адтрымала Англія, дык мосульская нэфта трапіла-б у рукі ангельскага капіталу; калі-б край застаўся пры Турцыі, дык амэрыканскі капітал у вольнай конкурэнцыі мог-бы пабіць капітал ангельскі, адкупляючы ў турэцкага ўраду концэсыі за вышэйшую цану. Дзеля гэтага Амэрыка падбухторыла Турцыю да спрацівіўленьня і адсюль разьбіцьцё конфэрэнцыі. Падтрымлівала Турцыю таксама й Італія, якая зацікаўлена аслабленьнем Грэцыі і Францыі, якая стараецца аслабіць Англію на Усходзе. Францыя гатова была падтрымаць Англію з варункам, што Англія падтрымае Францыю ў яе рурскай опэрацыі. Таму, што да гэтага торгу не дайшло — мэтаю Францыі было ўцягнуць Англію ў авантуры на Усходзе, каб самой мець вольную руку ў Эўропе—ў Руры.

Нарэшце, дэлегат Савецкае Расеі падчыркваў імкненьне Расеі да мірнага разрашэньня конфлікту і факт, што без Расеі ўсходняя справа разрашыцца ня можа. Савецкая Расея ня можа падпісаць трактату, які ўдарае па яе ўласным спакойстве (адчыненьне праліваў) і па інтарэсах народаў Турцыі.

Лёзанская конфэрэнцыя, мeўшая прынесьці Усходу мір—не дала гэтага міру, а яшчэ раз агаліла ўсё вастрэйшую й вастрэйшую нязгоднасьць паміж інтарэсамі дасюлешніх саюзьнікаў. Мір і мір цьвёрды могуць даць сьвету ня клясы заможныя, — што хапаюцца за лабы й гатовы сягоньня ваяваць за вугаль, ці кокс, а заўтра за нэфту, — а толькі міжнародны пролетарыят.

### „Але-ж я вярнуся.“

Карэспондэнт „Rzeczpospolitej“, бышўы на польска-савецкай граніцы сьведкаю апошняга абмену польскіх камуністных на асобы, адданыя Саветамі Польшчы, па між іншым, піша:

„Перад тым, як перавялі транспорты на процілежныя бакі, хтосьці з цікавых, як відаць, знаёмы падыйшоў да Домбаля.

— Як вы сябе чуеце?

— Дзякую.

— Выбачайце за цікавасьць: з якім пачуцьцём вы едзеце?

— Пакідаю край, як выгнанец. Цяпер мае перакананьні розьняцца ад перакананьняў, якія вы маеце тут, але я вярнуся! — падняў кулак..

Карэспондэнт супакойвае чытачоў, што гэта быў толькі жэст.

„Божыцца“ навет, што „бачыў страх у вачох Домбаля“

...Як відаць, уласны страх свае мізэрнае душачкі перад магутным Заўтра бачыў лёкай Хьены ў вачох пралетарскага барацьбіта.

## З вёсак і гарадоў.

### Забрэская вол., Валожынскага павету.

У районе воласьці ўсе масты зьведзены да апошняга палажэньня, аж рызыкоўна ўночы праз іх пераходзіць: можна праваліцца, або зламаць нагу. *Валасная Рада* дасюль нічога ня робіць у гэтай справе, апрача нейкіх гэшэфтаў з купцамі, якія папсавалі дарогі й масты, бесьперастанку вывозячы цэлыя дзялянкі народнага багацьця — лясоў кудысьці па чугунцы.

**А школы?** Некаторыя школы ўжо скончылі сваё існаваньне, бо няма дроў дзеля апалу іх. Як-жа можа Рада скрыўдзіць абшарніка Макржэцкага, ці Валпацкага, ўзяўшы з іхняга лесу дроў для школы? Бо яны-ж галоўныя кіраўнічыя Рады, хаця й неофіцыяльныя.

**А падаткі?** Ого! за падаткамі Рада сочыць, як трэба, галоўным чынам у адносінах да сялянства: ніводнае маркі ня скіне. А якія справядлівыя падаткі, напр., хто мае 3 каровы — 1000 марак, а хто адну таксама.

Ну, дык што-ж з таго, што Рада не патраціла ні на папраўленьне мастоў, ні на школы — яна напэўна адчыніць крэдытную касу, ці нешта ў гэтым духу, бо грошай набралася з крывавых мазалёў даволі... Ага, слаўная валасная Рада ў Забрэзьві.

### Вішнеўская вол., Валажынскага пав.

Зьнішчэньне лясоў ідзе шалёнымі крокамі. Вішнеўская лясная пушча ўпала ахвяраю жываедзкага гаспадараваньня абшарнікаў ды купцоў, якія бязьлітасна высякаюць і вывозяць па спэцыяльна на гэта праведзенай чугунцы ўсё, што мае там цану. У гэтым лесе рабочыя й бедныя сяляне часта ламаюць сабе рукі й ногі, пазбаўляюцца апошняга каня, а часамі і жыцьця. Але нікому ня прыдзе да галавы забясьпечыць іх у выпадку калецтва, аб іх саўсім запамінаюць, а праца пад зьнішчэньнем лясоў кіпіць..

Лясны рабочы.

## За кардонам.

### З МЕНСКУ.

### Статыстыка насяленьня м. Менску.

Апублікованыя Цэнтральным Статыстычным Бюрам Савецкай Беларусі даныя аб перапісі насяленьня Менску выглядаюць гэтак:

Усяго ў Менску ў 1922 г. лічылася насяленьня 102.875 чалавек (48.476 мужчын і 53.899 кабетаў). Па нацыянальнасьці: беларусаў 35 052 чалав. (34%). велікаросаў 8.864 чалав. (9%), палякоў 5.794 чалав. (5½%), жыдоў 48 379 чал. (47%) і 4½% іншых нацыянальнасьцяў.

Па перапісі царскага часу ў 1897 г. лічылася: беларусаў 9%, велікаросаў 25%, палякоў 11½%, жыдоў 51%.

(Як бачым лік беларусаў у Менску падрос на 25% агульнага насяленьня, ў той час, як іншыя нацыянальнасьці моцна зьменшыліся ў ліку. У першую чаргу гэты вялізны прырост беларусаў трэба аб'ясьняць поўным роўнапраўем нацыянальнасьцяў, пры якім кожны называе сябе тым, кім ён ёсьць і не саромíцца свайго пахаджэньня й мовы. Мы пэўны, што Вільня, Горадзен, Берасьце і павятовыя гарады Заходняй Беларусі далі-б у шмат разоў большы процант беларусаў, калі-б існавала ў нас роўнапраўе нацыянальнасьцяў, пры якім кожны беларус шанаваў-бы сваю мову і не стараўся-б праз „панскую мову“ залічыцца панам—сябром панующай народнасьці. Рэд.).

### З жыцьця беларускага тэхнікуму.

7-га сакавіка ў будынку беларускага тэхнікуму па ініцыятыве слухачак тэхнікуму адбыўся вечар. на якім прысутным былі прачытаны даклады, сьпевы, дэклямацыя і ігра на струнным аркестры.

Як ужо й раней ад'значалася, самым найлепшым быў хор, які з пэўнасьцю можна сказаць, ня горшы за беларускі дзяржаўны хор, а калі ён адтрымаець належную апрацоўку з мастацка тэхнічнага боку, то бязумоўна будзець першым беларускім хорам у Менску. Пасьля прапяяньня пабеларуску Інтэрнацыяналу, хор выпаўніў „Гімн моладзі“, словы якога напісаны слухачом тэхнікуму Александровічам, а музыка—настаўнікам сьпеваў у тэхнікуме Чарнякоўскім. Вельмі добра былі выпаўнены беларускія народныя песьні: „А ў нядзельку раненька“, „Біла жонка мужыка“, „Чачотка“ і „Мяцеліца“ і таксама добра была выпаўнена песьня Алеся Гаруна: „Вясна“. Слухачкай Бэнэзінскай было выпаўнена з вялікім мастацтвам два солё: „Сьпі мая красачка“ і „Дзіця і рожа“.

Выпаўненьне харавых нумароў перамешвалася ня зусім складным дакладам слухачкі Вірыч па пытаньню аб агульнай жаноцкай грамадзянскай працы і прамовамі Наркамасьветы Ігнатоўскага, дырэктара тэхнікуму Васілевіча, казаўшых, па якому шляху павінна ісьці кабета — грамадзянская працаўніца, і песьняра Цішкі Гартнага, зьвярнуўшага, паміж іншым, увагу на рэвалюцыянэрак-беларусак пэрыяду царскае ўлады.

Дэклямавалі слухачкі: Іванова верш „Маці“ і Куневіч верш Чарота „Кабетам“.

Невялічкі струнны аркестар, складзены са слухачоў, выпаўніў некалькі нумароў. Цікавым было выступленьне настаўніка музыкі тэхнікуму Лукоўскага, выпаўніўшага на скрыпцы „Раньне на вёсцы“.

Вечар скончыўся беларускай марсэльезай „Адвеку мы спалі“...

### Таварыства Гісторыі і Старажытнасьцяў.

10 сакавіка гэтага году ў будынку Унівэрсытэту (вугал Магазыннай і Скобелеўскай, б. гімн. Фальковіча) адбылося 24 чарговае пасяджэньне Таварыства Гісторыі і Старажытнасьцяў пад старшынствам рэктара Унівэрсытэту проф Пічэты.

Парадак пасяджэньня:

I. Гадовая справаздача і перавыбары Праўленьня

II Даклад **Ал. Шлюбскага:** „*Зьністажэньне бібліятэк і рукапісных гістарычных крыніц на Беларусі з XII веку да нашага часу*“.

III. Бягучыя справы.

Рэдактар-выдавец М. Косьцевіч. Друк. А. Дворжэца, Завальная, 32.